● ПРЫШЭЛЬЦЫ З ДАЛЁКІХ ПЛАНЕТ НА ЗЯМЛІ

## Зоркавыя войны?

Апошнім часам над маленькім Пуэрта-Рыка амаль кожны дзень заўважаюць лятаючыя талеркі. Тысячы напалоханых турыстаў адмаўляюцца праводзіць свой водпуск на гарачым востраве. Вядомы англійскі ўфолаг Рэманд Рабінсан лічыць, што прычына для панікі сапраўды існуе. Паводле яго звестак, у небе над Пуэрта-Рыка разгарэлася ні многа ні мала вайна за панаванне над Зямлёй. Вядуць яе два віды прышэльцаў з далёкіх планет — так званыя "шэрыя чалавечкі" і "паўночныя". Рабінсан валодае данымі, што 40 гадоў таму ўрад ЗША прадаў востраў "шэрым" у абмен на некаторыя сакрэты іншапланетных тэхналогій. Але тагачасныя кіраўнікі дзяржавы не ведалі, што ў планы вераломных гуманоідаў уваходзіць засяленне зямлі чалавекападобнымі гібрыдамі. Зараз жа амерыканцы прыцягнулі на свой бок "паўночных", якія абяцаюць выставіць саперніказ з нашай планеты. У якасці ўзнагароды ім быў паабяцаны ўсё той жа Пуэрта-Рыка, які па невядомых прычынах лічыцца самым важным для прышэльцаў зямным стратэгічным пунктам. Падобны крок уяўляецца Рабінсану небяспечным, таму што планы "паўночных" на нашу планету могуць аказацца яшчэ больш страшнымі.

Афіцыйныя прадстаўнікі Пуэрта-Рыка між тым заяўляюць, што ім нічога невядома пра ваенныя дзеянні, якія вядуцца над востравам, але абяцаюць правесці адпаведнае расследванне.

**Вікторыя КЛЯНОВІК.**

## Сусветнай катастрофы не прадбачыцца яшчэ 100 гадоў

Па меншай меры яшчэ цэлае стагоддзе чалавецтву не пагражае канец свету, сцвярджаюць кітайскія астраномы. Пасля "атакі" каметы Шумахер-Леві на Юпітэр многія запанікавалі: а ці не пагражае матулі Зямлі такі ж катаклізм, і вучоныя задаліся высокароднай мэтай развеяць апакаліптычныя апасенні.

Вядомы кітайскі астраном Лі Цыбінь і яго калегі з Пекінскай абсерваторыі акадэміі навук КНР абнародавалі абнадзейваючыя вынікі сваіх апошніх даследванняў. У будучым стагоддзі наш агульны дом чакаюць тры візуальныя рандэву з малымі планетамі. Бліжэйшае чакаецца 29 верасня 2004 г., потым — у 2069 і 2086 г.г. На шчасце, усе яны праляцяць "непадалёку" ад Зямлі толькі па астранамічных мерках — самая "цікавая" планета наблізіцца да нас толькі на мільён кіламетраў.

**Вячаслаў ТАМІЛІН.**

● ПАДСОБНАЯ ГАСПАДАРКА

## Каб куры несліся і зімою

Чаму ў адных куры амаль "запусціліся", а ў другіх даюць добры і надзейны прыбытак? Усё ад догляду. Трэба рабіць, каб куры несліся штодня.

Для восені і зімы — гэта цёплы хлеўчык, добры корм са шматлікімі вітамінымі дабаўкамі, святло. Куратнік драўляны, высокі (да 2,3 метра), прасторны. На паўднёвым баку — двайныя шыбы. Іх плошча складае дзесятую частку плошчы падлогі. Днём у памяшканні светла. Але ў кароткі зімовы дзень гэтага патоку святла ўсё ж недастаткова. Патрэбны лямпачкі невялікай магутнасці. Вечарам у пяць гадзін ці а палове пятай уключаецца святло да 20 гадзін. Светлавы дзень для курэй складае больш як дзесяць-дванаццаць гадзін у суткі. Падапечныя ўвесь час у руху. Дадаткова з сонечнага паўднёвага боку абсталяваць "веранду" з тоўстай плёнкі. Сонца яго добра награвае. Куры нават спрабуюць купацца ў смецці — як і летам.

Нават у самыя студзёныя ночы вада не павінна замярзаць. А ўвогуле тэмпература трымаецца на ўзроўні дзесяці градусаў цяпла. Куры не збіваюцца ў кучкі, не грэюцца, стоячы на адной назе.

Вядома, падтрымліваць чысціню. Раз у два дні ўбіраць памёт. У самым высокім месцы наладзіць адтуліну для вентыляцыі, якую ў цёплы дзень адчыняць, у холад — закрываць. Спецыяльны куточак адвесці для "ваннай". Там сухія тарфакрошка і пясок, ці дробная салома. Куры наведваюць яе вельмі ахвотна.

Але самае важнае — кармы. Штодзень варыць бульбу, запарваць аўсяную сечку. Усё добра перамешваць з дабаўленнем ячнай і жытняй мукі і 500 грамаў здробненага "мурожнага" сена. Урэшце атрымліваецца мешанка шэра-зялёна-залацістай афарбоўкі. Яна скормліваецца раніцай і ўвечары. Днём сыплюць ячмень. Калі корм не з'едзены, яго колькасць змяншаюць, з'елі і просяць яшчэ —дабаўляюць. Увесь дзень у хлеўчыку і на "верандзе" стаяць карытцы з вадою. Вада калодзежная, а яшчэ лепш са снегу ці даждж у. Адзін раз у два-тры дні раствараецца 0,5 г марганцоўкі (на вядро вады). Яна крыху дззінфіцыруе піцво. Вядома, карытцы мыюцца штодня, і вада ў іх толькі свежая.

Вясною і летам нарыхтоўваць крапіву, лісце ліпы, вярбы, таполі, бярозы, дзьмухаўцу. Усё сушаць на гарышчы, дзе гуляе ветрык. Зімою і вясною такую зеляніну звязваюць у пучкі і падвешваюць ці здрабняюць і кладуць у скрынкі.

Попел, які выбіраецца з печы і грубкі, таксама ставяць на агародзе, дзе гуляюць куры. У ім яны поруцца амаль увесь дзень. Усё нешта шукаюць. Відаць, патрэбнае знаходзяць, што застаецца, збіраць і раскідваць каля яблынь і на будучае бульбяное поле.

На догляд статка траціцца недзе гадзіну-дзве. Штодня. Але ж і аддача, якую атрымлівае гаспадарка, вартая таго.

## Падпіска на „Беларускі Усход" працягваецца!

На сакавік месяц і далей можна падпісацца на газету ў любым аддзяленні сувязі да 20 лютага.

Кошт падпіскі на 1 месяц — 61 рубель (недамінаваных — 61 тысяча рублёў), на 2 месяцы — 122 рублі.

Паважаныя падпісчыкі! "Беларускі Усход" распаўсюджваецца толькі па падпісцы, у кіёсках "Саюздруку" газету не прадаюць, таму мы звяртаемся да вас з просьбай — расказаць сваім родным, знаёмым, суседзям пра газету і прапанаваць ім аформіць падпіску. "Беларускі Усход" сёння самая танная ў рэспубліцы штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.

***Спяшайцеся на пошту! Выпісвайце "Беларускі Усход"!***

● ХОЧАЦЕ-ВЕРЦЕ...

### І ЗБУДЗЕЦЦА, І ЗЛЮБІЦЦА

## Парады вясковай чараўніцы

"Калі каханне прыйшло да цябе, а ён шчаслівы з другой — не жадай бяды, не забівай клін між двумі, калі ўсё ў іх ладзіцца. Падумай, ці трэба табе шчасце, пабудаванае на чужых слязах. Лепш вазьмі святой ці крынічнай вады і нож любы — толькі новы, вось і ўсё, што трэба. Устань на досвітку, не еш нічога, прыгатаваную ваду налі ў шклянку. Нож нагрэй дачырвані і адразу апускай у ваду, прыгаворваючы: "Як нож у вадзе астывае, так і каханне маё няхай астыне!" Паўтары словы пяць разоў, дакранаючыся подыхам вады. Пасля гэтага нагавораную ваду выпі, а ў поўнач паўтары абрад зноў. І рабі так пяць дзён запар".

Такую параду дала мне бабка-чараўніца з глухой вёскі. Не раз, прыязджаючы да яе, я назірала за дзеяннем замовы. Не скажу, што дапамагала заўсёды, але, як правіла, эфект аказваўся станоўчым.

А вось яшчэ адна бабульчына парада:

"Калі пачаліся ў сям'і сваркі, скандалы, спрэчкі, лаянкі, перш-наперш выпраўдзі ўсіх дамашніх з дому і добра вымый парог за дзвярыма. Адкрый усе вокны і дзверы насцеж, запалі царкоўную свечку і абыдзі з ёю ўвесь дом. Хадзі моўчкі, не спяшаючыся, і каб дома ты была адна і ніхто аб праводзімым абрадзе не ведаў і не бачыў яго. Хадзі, у душы Бога прасі аб парадку, пакоі, любові, здароўі. Не шукай асаблівых слоў, простымі, самымі простымі, што пойдуць ад сэрца.

Толькі ў гэты час аб грэхоўным не думай і багацця не прасі. Звярнуўшыся да Госпада са сваёй патрэбай у апошні раз, затушы свечку кончыкамі пальцаў і пастаў на бачнае месца. Пасля зачыні вокны і дзверы, а сама памыйся халоднай вадой ці з вядра абліся. Уздыхні і чакай дамашніх".

Не раз я назірала, як чараўніца прымушала людзей выконваць гэты абрад, і пераконвалася ў яго незвычайнай дзейснасці. А потым і сама спрабавала: кожны раз злы "накіп" з кватэры знікаў, дыхаць лягчэй станавілася. І дамашнія мае адчувалі перамену — у сабе, у іншых, у кватэры. Ну а калі не атрымаецца адразу, паўтарыце абрад яшчэ раз.

**Соф'я КАРНЯЎЧУК.**
**"Тайная власть".**

## Куры-рекордсменки

Максимальные темпы кладки яиц были зарегистрированы в сельскохозяйственном колледже Университета штата Миссури (США) во время эксперимента, проведенного Гарольдом В. Биллиером в 1979 г. Курица породы белый леггорн снесла 371 яйцо за 364 дня.

Самое тяжелое яйцо весом 454 г с двойным желтком и двойной скорлупой снесла 25 февраля 1956 г. курица породы белый леггорн в Вайнленде, Нью-Джерси (США). Самое большое яйцо, с пятью желтками, весом около 12 унций и имеющее в объеме 31 см по продольной оси и 22,8 см по поперечной, снесла курица породы черная минорка в 1986 году на Дамстедс Фарм, принадлежащей Стаффорду в Меллоре, Ланс (Англия).





***Дрывасек, дрывасек, ты навошта ёлку ссек?***

**Малюнак Ромы Лапо. Намаляваў у 5-гадовым узросце.**

● КУТОК ГАСПАДЫНІ

У часы эпідэміі грыпу трэба як мага больш есці цыбулі, часноку і, канешне, капусты.

### БЛЮДА ИЗ КАПУСТЫ

### КАПУСТА ЗАПЕЧЕННАЯ

Мелко нарезать, проварить не более 5 минут. Отжать. Уложить на противень, смазать сметаной, посыпать сухариками. Можно залить капусту взбитым яйцом, запечь.

### ПОХЛЕБКА КАПУСТНАЯ

Капусту зачистить, тщательно помыть, нарезать тонкой соломкой, смешать с измельченной свеклой, морковью, залить горячей водой. Быстро довести до кипения. Варить 10 минут. Дать настояться. Добавить сметану, зелень укропа, петрушку, чеснок.

### КАПУСТА С ХРЕНОМ

*400 г капусты, 1 вареная свекла, 1 ст. ложка хрена, 2 ст. л. растительного масла, сахар по вкусу, зелень петрушки.*

Свеклу очистить, натереть на терке, смешать с капустой, хреном, сахаром, растительным маслом, украсить петрушкой.

### ШНИЦЕЛЬ ИЗ КАПУСТЫ

*1 кг капусты, 1 ст. л. муки, 2 яйца, 2 ст. л сухарей, 3 ст. л. растительного масла.*

Белокочанную капусту очистить, вырезать кочерыжку и отварить в подсоленной воде до готовности (если капусту отварить в молоке, она будет значительно вкуснее). Переложить на сито, дать стечь, разобрать на отдельные листья, толстые стебли "отбить" или срезать. Каждый лист сложить конвертом, обвалять в муке, смочить в яйце, обвалять в сухарях с двух сторон, обжарить. Можно подавать в горячем или в холодном виде.

**Салат** из свежей капусты лучше всего следует готовить непосредственно перед едой. Желательно тереть её на пластмассовой терке, не железной.

*Сок капусты следует пить по утрам, салат есть днем и вечером. Только так вы "выберете" из капусты все лечебное, полезное.*

*Следует помнить: щи, борщ, капустняк — успокаивают головную боль, но для достижения лечебного эффекта их солить следует только после полной готовности.*

## Падумаем пра расаду

Няўзадаўгі трэба ўжо будзе высяваць на падаконніку насенне памідораў, перцу, сельдэрэю і інш. гароднінных культур. Ужо заўтра-паслязаўтра пачынайце рыхтаваць тару і глебу для расаду.

Глеба павінна быць рыхлая і ўтрымліваць дастатковую колькасць угнаенняў, асабліва фосфарнай групы. Гэта дасягаецца выкарыстаннем пілавіння, саламянай рэзкі, мякіны, шалупіння яек, рачнога пяску, якія добра перамешваюцца з нарыхтаванай з восені зямлёй, прамарожанай. А зараз яе трэба адтаяць і пракаліць на агні, каб знішчыць не загінуўшых ад марозу шкоднікаў і ўзбуджальнікаў хвароб расады. Ужо ў гэтыя дні трэба паклапаціцца і аб насенні. Калі свайго няма — тэрмінова купіць, бо недзе чысла 10-15 трэба ўжо высяваць насенне перцу, сельдэрэю і ранніх памідораў. Аб падрыхтоўцы насення, сяўбе і доглядзе расады чытайце ў наступным нумары нашай газеты.

**Р.ДАЎГАЛЁВА.**

## Цікавыя жартачкі

Меру-то мы ведаем, ды ці яе ж вып'еш?

Як ні працуй — заўсёды знойдзецца казёл, які працуе менш, а атрымлівае намнога больш.

Ты, работа, не бойся нас, мы цябе чапаць не будзем.

Страціўшы сваю годнасць, зрабіце выгляд, што гэта не ваша.


## ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 2 лютага 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 4204 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 5.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**